І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** Снежань 2013

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**

## "Стыхія"

стар. 2

**«Беларуская мова вельмі эратычная» — іспанка склала топ-10 прычын размаўляць па-беларуску**

стар. 8

**Ігар Случак: Рэгламент хакейнага чэмпіянату Беларусі варта праверыць на парушэнне Канстытуцыі**

стар. 3

**Ахоўнікі збівалі нагамі кліента, які ляжаў**

стар. 8

# "Стыхія"

***Музычнае жыццё Гомеля мае вялікую гісторыю, шмат знакамітых гуртоў нарадзіў горад над Сожам. І здаецца гэта гісторыя будзе папаўняцца новымі зоркамі. Сёння наш музычны крытык Алекс ТРЭШ распавядзе пра ўзыходзячую зорку гомельскага цяжкога року, гурт "Стыхія", які нягледзячы на сваю маладосьць ужо аброс легендамі і чуткамі, хоць і не мае пакуль ніводнага афіцыйна выдадзенага альбому.***

Сапраўды народны гурт. Дарэчы сам Алекс быў адным з пачынальнікаў гурту, але зышоў з яго. Таму каментар яго будзе як кажуць крыху эмацыйным. Але дакладным. Бо ён прафесіянал. Чэсна. Але дадім яму слова: "Дааа... І не хочацца ж, блін, у які ўжо раз разварочваць гэтую кучу нямытых шкарпэтак, але іншых варыянтаў няма,

таму прыйдзецца... Папрасту кажучы "Стыхія" - гэта каманда, заснаваная на разнагалоссі паміж лідарам - Артурам - і іншымі ўдзельнікамі гурту. І усё пачалося з моманту ствараэmikki-maus 23947811 orig ння гурта. 28 красавіка 2006 года. Гарацкі Цэнтр Культуры. Канцэрт расейскага гурту "Мастер". Да знаходзячагася ў фае ГЦК Алекса Трэша падыходзіць бухі ў хлам Артур і прапаноўвае стварыць гурт, арыентаваны на спід- метал (у першую чаргу на "Мастер").

- Але пачакай, - кажу я яму - як жа мы будзем граць. Я ж ні на чым ня ўмею...

- Лухта гэта усё, - адказаў Артур - купіш гітару і навучышся.

- Добра, заўтра вырашым, а зараз - пагналі на "Мастер"!

На наступны дзень, я прыйшоў на тусоўку, дзе быў Артур, і прымеціў, што ён зусім нічога не памятае з таго, што учора мне казаў, і не хоча чуць ні пра які гурт. Праўда, хутка памяць




да яго "вярнулася", і ён прыпомніў усё. І тут пачалася цяганіна з назовам каманды.

Мае англамоўныя назовы Артур адкінуў адразу, сказаў, што назоў трэба беларускамоўны (гэта для металёвага гурту? Ну-ну! - заўвага Трэша). І першае, што яму прыйшло ў галаву, было слова "Сталь".

- Да ты што, з глузду з'ехаў? - кажу я яму - гэта ж ні у якія межы не лезе! Ты яшчэ "Алюміній" назаві...

Пасьля гэтага Артур доўга і мучыцельна прыкідваў, які назоў выбраць... Нарэшце вырашыў спыніцца на слове "СТЫХІЯ".

- Добра, - кажу - гэта яшчэ куды не ішло. Хоць скандыраваць зручна...

З назвай разабраліся. Пачалі набіраць склад. Набіралі цэлае лета. Мне ж яшчэ прыходзілася збіраць бабло на гітару. Хоць я зусім не разумеў, як я на ёй буду граць.

Да верасьня першы склад гурта быў канчаткова сфарміраваны:

Алекс Трэш - гітара.

Артур - ударныя (пазней перайшоў на бас)

Ілля "Мамон" - вакал

Андрусь - бас-гітара (пазней стане драммерам. Андруся прывёў Артур. Дзе і як знайшоў не казаў. Пазней даведаўся, што пазнаёміўся ён зм як і са мной - набухаўся і запрасіў у гурт)

Была яшчэ нейкая клавішніца Алена, якая ў складзе гурта так і не з'явілася і сама сабой як та натуральна адпала. Склад сабралі і тут паперла такая трасца, што

і распавядаць не хочацца! Па-першае, хутка накрылася "кропка", дзе мы рэпетыравалі.

Па-другое, у калектыве не было згуртаванасці, адзінства. Кожны цягнуў у свой бок, як лебедзь, шчупак і рак. "Мамон", напрыклад, хацеў нешта хордрокавае (па-тыпу "Арыі").

Артуру было не істотна, што граць, але са складам тэкстаў давёў усіх, асабліва мяне:

- Ну і што гэта за маты тут? Мат я і сам сказаць магу, - пастаянна казаў Артур (у выніку "Рытуал" прыйшлося перараб-

# "Стыхія" - працяг.

ляць, "П%*дзец гапаце" зусім не ўключылі ў рэпертуар).

Плюс яго пастаянныя прэтэнзіі да вакаліста, з-за чаго "Мамон" хутка зусім пакінуў гурт.

Вось тут мы і папалі ў дупу! Новага вакаліста не знайшлі, пець прыйшлося самому Артуру (голас якога пакідае жадаць лепшага). Хутка ў гурт прыйшоў клавішнік Яўген, які мае свой праект - гурт "Банда Мароза", але яго прыход не прыпыніў пагружэнне "Стыхіі" у муць. Трасца працягвалася. Да таго ж музыку мы пачалі рабіць нейкую зусім неасэнсаваную. Артур у той час падсеў на "KISS" і пачаў патрабаваць ад нас, каб мы грыміраваліся пад іх і рабілі ўвесь гэты панк-раздаўбай. Зразумела, гэта не магло не напружваць, асабліва калі твае песьні не прымаюцца, а ад цябе патрабуюць касіць пад кагосьці... І вось у адзі прыгожы дзень я прамовіў Артуру:

- Усё! Я у тваёй багне заставацца не збіраюся!!! І сышоў з гурта. Аб гэтым зараз не шкадую, бо ў той час другога выхаду не было. Гурт набыў новы імпульс з прыходам у гурт мэнэджэра Ігара, які накіровае рух гурта, чым вывеў яго на прафесійны узровень. Не задаволены арганізаванасьцю гурта, ён выключыў са складу гурта вакаліста, якога не разу не бачыў і запрасіў новага - гітарыста і вакаліста Юру, а таксама сэсійнага ўдарніка Віцяя. Гэта быў добры крок, бо адразу гурт стаў згуртаваным і зараз пленна працуе. Але Ігар яшчэ усё не пабачыць драммера Андруся, і думае што з ім патрэбна рабіць тое ж, што і з вакалістам, калі ён не з'явіцца ў бліжэйшы час. Нават Артур зразумеў, што музыканты, нават лідэры, павінны займацца сваей справай - граць, а стратэгічныя і маркетынгавыя справы павінен рабіць мэнэджэр, які ведае, што патрэбна грамадству ў дадзены прамежак часу."

*gnavinki.com*












Правілы жыцця гомельскага рок-н-рольшчыка:
1) Сэкс;
2) Наркотыкі;
3) прыбраць раніцай, перад прыходам мамы.

# Ігар Случак: Рэгламент хакейнага чэмпіянату Беларусі варта праверыць на парушэнне Канстытуцыі

***Арганізатар кампаніі "Справаводства па-беларуску" Ігар Случак даўно стаў вядомым і для прыхільнікаў спорту. Ён уступіў у перапіску з футбольнымі і хакейнымі клубамі нашай краіны. Лісты з просьбай павялічваць выкарыстанне беларускай мовы дзесьці атрымліваюць падтрымку, а ў кагосьці выклікаюць адпіскі ды адмоўную рэакцыю. Карэспандэнт pressball.by пагутарыў з Ігарам Случаком і высветліў, наколькі эфектыўна працуе грамадская кампанія, якія планы ў актывіста і хто варты асаблівай увагі за зрухі ў справе беларусізацыі спорту.***



**Ігар, для пачатку можна ўспомніць, з чаго пачалася кампанія.**

Годам пачатку ініцыятывы "Справаводства па-беларуску!" можна лічыць 2009. Тады летам праходзіў чарговы з'езд згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Я вучыўся ў Эстоніі і, такім чынам, стаў беларускім дэлегатам ад гэтай краіны. Напачатку з'езда з вітальным словам да дэлегатаў на добрай беларускай мове звярнуўся амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан, а таксама тагачасны міністр культуры Павел Латушка. Ён запэўніў усіх прысутных, што зробіць сваё міністэрства цалкам беларускамоўным, у тым ліку і ў справаводстве.

Тады мне падалося, што калі шведскі амбасадар гаворыць па-беларуску нашмат лепей за некаторых беларусаў, міністр лічыць магчымым цалкам беларусізаваць сваё міністэрства, то можна правесці і беларусізацыю ўсяго дзяржаўнага апарату, усіх міністэрстваў і ведамстваў, усёй Беларусі. На жаль, шведскую амбасаду зачынілі, а Паўла Латушку саслалі ў Францыю.

Але справа Эрыксана-Латушкі жыве. Пасля з'езду я распачаў персанальную кампанію "Справаводства па-беларуску!", якая праз пару год перарасла ў грамадзянскую ініцыятыву. Першай мэтай было патрабаванне ўнясення ў закон "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" зменаў, паводле якіх адказ на пісьмовы зварот павінен давацца на мове звароту. У Парламенце былі ўсталяваныя добрыя стасункі з дэпутатам Яўгенам Мельнікавым, які кіраваў працай па падрыхтоўцы законапраекту і нашы прапановы былі падтрыманыя. Цяпер на пісьмовы зварот па-беларуску павінен давацца і адказ на роднай мове.

**Памятаю, як у Віцебскай вобласці вам паведамілі, што большасць школ у рэгіёне — беларускамоўныя, а пры вашай паўторнай праверцы высветлілася, што на роднай мове на Віцебшчыне не вучыцца нават і 20% дзяцей. Часта атрымліваеце хлуслівыя "факты"?**

Так, гэта даволі распаўсюджаная з'ява, калі адказчыкі любяць пагуляць з лічбамі, са статыстыкай, выдаючы адны факты за іншыя. Да таго ж у адміністрацыях футбольных клубаў пайшла мода спасылацца на меркаванне гульцоў, калі пытанне заходзіць аб пашырэнні ўжывання беларускай мовы. Пасля часта высвятляецца, што гульцоў ніхто і не пытаў.

**Розныя ўстановы, далёк не толькі спартовыя, вам часта адказваюць, што на беларусізацыю няма грошаў. Пры гэтым у Барысаве шыльду "Дом гандлю" перарабілі на "Дом торговли". Адсутнасць фінансаў — адгаворкі?**

Так, сапраўды, спасылка на адсутнасць фінансавання — гэта самая распаўсюджаная адгаворка, што апелюе да лагічных пачаткаў (эканомія, беражлівасць і г.д.) і дае магчымасць замяць праблемнае пытанне. Але калі паглядзець, на што ўстановы і арганізацыі ў той жа час трацяць бюджэтныя грошы, то можна зразумець, што грошы ёсць, да таго ж на вырашэнне культурна-моўных пытанняў іх бы пайшло значна меней. Таму такія адказы я лічу крывадушнымі і абразлівымі. У любой іншай краіне чыноўнік ніколі не адказаў бы, што ў яго няма гро-



## ГумНо СПАРТЫЎНАЕ

шай на нацыянальную мову і культуру. Нават калі б іх сапраўды не было, на вырашэнне такіх пытанняў іх знайшлі б у першую чаргу.

**Ваша прававая адукацыя дапамагае?**

Думаю, што крыху дапамагае, — ведаеш, на які нарматыўны акт спаслацца, як пісьменна скласці зварот і патрабаваць рэагаванне на яго ў адпаведнасці з заканадаўствам. Але гэта толькі напачатку — ведаючы схему, гэта можа рабіць кожны беларус без спецыяльнай падрыхтоўкі. У прынцыпе, дастаткова ведаць пару артыкулаў закону "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" і ўжо можна пачынаць працу з чыноўнікамі дзеля пашырэння ўжывання роднай мовы.

**Што вас звязвае з універсітэтам у эстонскім Тарту?**

Атрымоўваў там юрыдычную адукацыю.

**Эстонскай валодаеце дасканала?**

Не сказаў бы, што дасканала, досыць складаная мова, але, думаю, не горш, чым у свой час Манэргейм валодаў фінскай. Акрамя гэтага, адукацыю атрымоўваў па-эстонску, таму чытаю і пішу даволі добра, а размоўная мова горш. Да таго ж, мая бабуля — ўдмуртка, гэта фіна-ўгорская моўная група, як і ў эстонцаў, таму, можа, гены крыху дапамагалі.

**Калі з'явілася ідэя пісаць у спартовыя клубы, каму напісалі найперш?**

Ідэя пісаць у спартовыя клубы з'явілася ў 2011 годзе, і да гэтай ідэі мяне падштурхнулі ў першую чаргу футбольныя фанаты сваім добрым прыкладам, калі масава і актыўна пачалі выкарыстоўваць беларускую мову ў сваёй дзейнасці.

Наогул, у плане развіцця беларускай мовы і нацыянальнай культуры фанаты — гэта вельмі прагрэсіўная частка беларусаў. Сваімі беларускамоўнымі банэрамі, налепкамі, зарадамі яны вельмі папулярызуюць мову, выводзяць яе на вуліцу, у шырокі асяродак. З дапамогай гэтага яе бачыць шмат людзей і паступова схіляецца да яе. Вельмі прыкра, што фанацкі рух у Беларусі атрымоўвае неадэкватную ўвагу ад праваахоўнікаў і вяла падтрымліваецца ці зусім не падтрымліваецца ў гэтым канфлікце адміністрацыямі клубаў. Бо, на мой погляд, за выключэннем пары-тройкі клубаў, фанаты — гэта лепшае, што ёсць у беларускім футболе.

Калі ж я вырашыў напісаць у клубы, то найперш напісаў у футбольныя каманды вышэйшай лігі, а таксама ў хакейныя клубы Экстралігі, бо сам з'яўляюся большым прыхільнікам хакею, чым футболу. У двухтысячных быў даволі актыўным заўзятарам ХК "Гомель", стаяў на сектары, час ад часу на выязды ездзіў. Але сам фанатам сябе не лічыў, бо ў Беларусі, па сутнасці, ёсць толькі футбольныя фанаты. На мой погляд, яны як ВНУ, а заўзятары хакею — як школа ці садок дзіцячы.

**Адказ з хакейнага клуба "Магілёў" — "дазвольце нам самім вызначаць, на якой мове каментаваць матчы і пісаць прозвішчы гульцоў" — самы абуральны?**

Не сказаў бы, што самы абуральны. Абуральнае тут хутчэй тое, што клуб, які нічога з сябе не прадстаўляе, не мае нават фарм-клуба і пляцецца ў канцы табліцы без шанцаў на нейкі ўздым, дазваляе сабе такія пафасныя адказы. Лепш бы ўжо навучыліся самі вызначаць, як палепшыць гульню і прыслухоўваліся да іншых, як палепшыць імідж. А самымі абуральнымі з'яўляюцца адказы, дзе табе проста ў вочы хлусяць у стылі "мы з футбалістамі параіліся і яны вырашылі, што будзем рускую выкарыстоўваць", а пасля выяўляецца, што ў тых футбалістаў нават не пыталі. Гэта зневажае і фанатаў, і заўзятароў, і сам клуб у першую чаргу.

**Здараецца так, што вы разумееце сваю памылку ў тактыцы пры зваротах?**

Я магу шмат памылак рабіць, але і прызнаваць іх, што важна. Але зараз вы якую памылку маеце на ўвазе?

Я запытаў наогул, ці прызнаеце памылкі, калі яны ёсць.

Напачатку ініцыятывы, у 2009-м, звароты былі больш катэгарычныя, патрабавальныя, што пужала адрасатаў, таму добрага кантакту не было. З цягам часу звароты сталі мякчэйшымі і нейтральнымі, і кантакт пачаў наладжвацца — добрае слова і кацянё любіць, а чыноўнік тым больш.

**Вас абурае вялікая колькасць памылак у беларускамоўным тэксце адказаў?**

Так, безумоўна, гэта мяне абурае, бо адказваюць людзі, якія займаюць высокія пасады, а гэта, у сваю чаргу, дэскрыдытуе і саму ўстанову, і таго, хто падпісаў ліст. Я, канечне, таксама не абыходжуся без памылак, але, калі пішу ліст, я прадстаўляю толькі сябе, а не міністэрства, установу ці клуб.

Наколькі я разумею, наваполацкі "Хімік"-СКА пасля рэканструкцыі абяцаў зрабіць табло па-беларуску. Якія яшчэ абяцанні прышлі з клубаў?

Так, было такое абяцанне з Наваполацку, спадзяюся яны яго выканаюць. Ад хакейных клубаў,

# Ігар Случак: Рэгламент хакейнага чэмпіянату Беларусі варта праверыць на парушэнне Канстытуцыі. Працяг

акрамя "Хіміка", падаецца, прапановаў не паступала — усе спасылаюцца на Рэгламент, што забараняе беларускую мову.

Крыху больш абяцанняў ад футбольных клубаў — БАТЭ, "Гомеля", "Белшыны", "Нёмана". Гэта і пашырэнне ўжывання мовы ў камандзе, і беларускамоўныя надпісы на форме, табло, дыктары і гэтак далей, але пакуль гэта толькі абяцанні, пры якіх спасылаюцца на адсутнасць грошай, спецыялістаў, меркаванне каманды. Просяць даць час на рэалізацыю. Пакуль самым прыстойным ў гэтым пытанні лічу "Дынама-Брэст", якім прапанавалі напачатку сезона пісаць прозвішчы па-беларуску і каментаваць па-беларуску, яны гэта і зрабілі. Паважаюць як сваіх фанатаў, так і іншых заўзятараў, любяць мову. Таксама адзначу пазітыўныя крокі ў "Гомеля" (дыктар і табло па-беларуску), а таксама "Белшыну", дзе таксама сур'ёзна ўзяліся за беларускую мову. Падаецца, прагрэс намячаецца і ў БАТЭ. У астатніх клубаў, здаецца, на ўзроўні адміністрацый з мовай не ўсё так добра, але іх фанаты малайцы, мову прасоўваюць.

**Вы размаўляеце з кіраўнікамі клубаў асабіста?**

Не, з кіраўнікамі клубаў яшчэ не давялося складсці неафіцыйныя стасункі для вырашэння моўнага пытання (але, шчыра, гэта мая недапрацоўка, сам пакуль не прыкладаў для гэтага высілкаў), але з прадстаўнікамі адміністрацыі некаторых клубаў вышэйшай лігі кантакт ёсць, і не заўсёды гэтая ініцыятыва сыходзіла ад мяне. Гэта паказвае, што моўнае пытанне хвалюе не толькі заўзятараў, фанатаў і проста прыхільнікаў беларускай мовы, любяць яе і ў саміх клубах. І гэта вельмі радуе.




-А ЛЕПШЫМ БАМБАРДЗІРАМ СТАНОВІЦЦА ЯСЬКА, ЯКІ ТРАПІЎ 17 РАЗОЎ, З ІХ ТРОЙЧЫ Ў РАНАЛЬДА!

Ад "Славіі", якая выляцела з вышэйшай лігі, адказ вам даваў Турчын, але дырэктар змяніўся. Днямі ў палешукоў адкрылася новая версія афіцыйнага сайту, на беларускай мове. Вы пісалі новаму кіраўніку альбо ў клубе самі вырашылі стварыць новы сайт?

Не, новаму кіраўніку яшчэ не пісаў, таму гэта добрая асабістая ініцыятыва клуба. Трэба напісаць і падзякаваць — глядзіш, у новым сезоне і прозвішчы па-беларуску на форме з'явяцца.

Доўгай была гісторыя з "Гомелем". Давайце ўзгадаем па парадку, што і як было. Пасля пазітыўных зрухаў у выглядзе беларускамоўнага дыктара, гульцы "Гомеля" сказалі, што ніякага галасавання па выбары мовы для напісання прозвішчаў на футболках не было...

Так, напачатку чэмпіянату я звярнуўся да ўсіх футбольных клубаў вышэйшай лігі, у тым ліку і да роднага "Гомеля". Акрамя іншага, прапаноўваў пісаць прозвішчы на форме па-беларуску. Напачатку прыйшоў адказ за подпісам намдырэктара клуба Кушнера, што па гэтам пытанні трэба правесці апытанку сярод гульцоў. Думаў, пачакаю. Праз некаторы час прыйшоў адказ, які падпісаў дырэктар клуба Пабалавец, ён паведаміў, што гульцы прагаласавалі за рускую мову. А пасля журналіст Зміцер Панкавец звязаўся з некаторымі гульцамі каманды, у тым ліку і капітанам, а яны прызналіся, што ніякага галасавання не праводзілася. Па выніках гэтай прыкрай гісторыі я зрабіў аналіз фактаў, што можна і зараз прачытаць. Відаць адміністрацыі не спадабалася, што іх фактамі носам у бруд, як нашкодзіўшых коцікаў, патыкалі, дык яны са старонкі афіцыйнага сайта выказаліся ("К вопросу о языке") з гэтай нагоды ў стылі, што гэта ўсё хлусня і правакацыя і не ўцягвайце клуб у палітыку. Ну, ведаеце, звычайная песня абмежаваных людзей — калі ты падтрымліваеш беларус-

кую мову, то гэта палітыка, а калі ты кагосьці ловіш на хлусні — то гэта правакацыя. Гэта вам і Любанец з Маладзечна падцвердзіць!

А што мы маем у выніках сезону — некаторыя гульцы распрададзены, перад наступным сезонам склад зноў можа абнавіцца амаль на 100%, 6-е месца ў табліцы, а калі б не падзел на шасцёркі, то не ведаю якое было б. І гэта не ўсё: людзі на стадыён перасталі хадзіць, а фанатаў выставілі нейкімі бандытамі, і цяпер яны байкатуюць дамашнія гульні. Вось такія вынікі адміністрацыйнай працы клуба ў 2013 годзе! Але, канечне, там зноў скажуць, што гэта хлусня і правакацыя, а клуб на правільным шляху.

Тым не меньш, крыўды ні на каго я не маю. Кожны можа рабіць памылкі, але галоўнае ўмець іх прызнаваць і рабіць высновы. Спадзяюся, "Гомель" працягне беларусізацыю клуба і каманда сапраўды стане флагманам беларускамоўнага футбола Беларусі.

**Кіраўніцтва "Гомеля" ўвесну абяцала, што на афіцыйным сайце клуба з'явяцца навіны па-беларуску. За паўгода апублікавана адна навіна. Абяцанне, каб знізіць ажыятаж вакол тэмы?**

Так, вы маеце рацыю. І ў адказе, і на сайце былі абяцанні, што хутка, ужо вельмі хутка, ну проста вось зараз з'явяцца навіны па-беларуску. Але сапраўды за ўвесь час толькі адна навіна была, калі не памыляюся, да гадавіны Грунвальда і гульні з мінскім "Дынама".

**Менавіта пра гэта. Рэгламент чэмпіянату Беларусі па хакеі выклікаў новы скандал — адкажыце, як чалавек, які мае спецыяльнасць "Правазнаўства", такі Рэгламент парушае Канстытуцыю?**

Гэта мінімум пытанне, па якому можна праводзіць дадатковую праверку. Калі казаць сходу як грамадзяніну і патрыёту, то парушае. Калі пачынаць разбірацца ў нюансах, то можна ў іх патануць і вынесці рашэнне, якое падтрымае альбо беларусаў, альбо федэрацыю.

Мой асабісты погляд на праблему такі: у Канстытуцыі дзве дзяржаўныя мовы, і кожны можа карыстацца той мовай, якой ён хоча. Закон "Аб мовах" кажа, што амаль усё магчыма рабіць на рускай і (або) беларускай мовах. То бок федэрацыя як юрыдычная асоба можа весці справаводства на рускай мове і ў сваіх ўнутраных дакументах пісаць накшталт "бэйджык Ворсіна павінен пісацца толькі па-руску літарамі чырвонага колеру на белым фоне". Але Рэгламент распаўсюджвае сваю сілу на іншыя юрыдычныя асобы з розным статусам — у нас ёсць клубы і ў форме грамадскіх аб'яднанняў, і таварystваў, і устаноў камунальнай гаспадаркі. То бок ў адпаведнасці з Канстытуцыяй гэтыя юрыдычныя асобы самі маюць права вырашаць, на якой дзяржаўнай мове весці свае справы. Таму, на мой погляд, гэтым Рэгламентам федэрацыя перавысіла свае паўнамоцтвы. Калі ў каго ёсць жаданне, то ён можа ініцыяваць праверку па гэтым пытанні.

**Ігар, вы ўзгадалі, што калісьці былі на сектары гомельскіх фанатаў. Цяпер на матчы ХК "Гомель" зазіраеце?**

Так, безумоўна. Хоць чэмпіянат і страціў той узровень, што быў у сярэдзіне 2000-х, дэградаваў, але 30-40% дамашніх гульняў "Гомеля" за сезон я наведваю.

**А наколькі вы часты госць на матчах футбольнага "Гомеля"?**

Стараюся наведваць усе матчы, тым болей што іх у месяц не так шмат, як хакейных.

**Баскетбольны клуб "Цмокі-Мінск" не проста мае ўнікальную і прыгожую назву на роднай мове. Сам дырэктар цэнтра эканамічнага развіцця і спартыўнага маркетынгу клуба Аляксандр Куль падкрэслівае, што каманда і надалей будзе выдаваць сваю прадукцыю на беларускай мове. Сочыце за "Цмокамі"?**

Так, з цікавасцю сачу за гэтай камандай. Ніколі да іх не звяртаўся з заўвагамі-прапановамі, падаецца, у іх усё і так у плане мовы ідзе сістэмна і ў пазітыўным накірунку. Адразу, калі клуб толькі пачаў рэфармавацца і я даведаўся, што ім займаецца Куль, то зразумеў, што гэта будзе сапраўды добрая, цікавая і канкурэнтаздольная беларуская каманда. Тут усё заканамерна — Куль адзін з найвядомейшых беларускіх баскетбалістаў, шмат часу правёў за мяжой, бачыў, як і на чым будуецца клубнае жыццё, таму ён так арганічна ўпісаўся ў каманду. Я б сказаў, што ён яе і цэментуе. Такія спартовыя мэнэджэры і патрэбны беларускім клубам — прафесіяналы ў спорце і той жа час адукаваныя людзі з шырокім даляглядам.

**Футбольныя і хакейныя клубы ўжо былі, можа цяпер звярнуцца ў баскетбольныя і гандбольныя?**

Добрая ідэя, нельга пакідаць без увагі і іншыя гульнявыя віды, у іх шмат прыхільнікаў. Але і хакейныя ды футбольныя клубы таксама не буду забываць.

*Арцём СІЗІНЦАЎ*

## «Беларуская мова вельмі эратычная» — іспанка склала топ-10 прычын размаўляць па-беларуску

***Ангела Эспіноса, інспанка, якая вывучае ў Гранадзе славянскую філалогію. Дзяўчына год таму ўзялася самастойна вывучаць беларускую мову і нядаўна завяла адмысловы блог «Іншаземка, якая піша па-беларуску».***

Ангела апублікавала пост «10 добрых прычын, каб размаўляць па-беларуску».

10. Мова — скарб. Трэба захоўваць і берагчы кожную мову. Кожныя 14 дзён на Зямлі памірае адна мова, па статыстыцы ЮНЕСКА.

9. У беларускай мове маецца шмат архаізмаў, структур і функцый, якіх няма ў іншых славянскіх мовах. І ўнікальная літара «ў». Яна таксама дапамагаем лепш разумець этымалогію і граматыку іншых моў (паверце мне, я вывучаю славянскія мовы ўжо 5 гадоў).

8. Беларуская літаратура проста цудоўная (Купала, Багдановіч, Колас, Быкаў… І па-мойму ў вашай сям'і Цётка лепш, чым Бацька).

7. Праз мову можна шмат цікавага даведацца пра культуру нацыі і атрымаць доступ да фальклору.

6. Па-беларуску граюць выдатную музыку. Асабліва рок. Спяваць весялей, калі разумееш тэкст. І ўсе любяць спяваць, нават калі толькі ў душы.

5. Сродкі масавай інфармацыі на беларускай мове пакажуць табе іншую кропку гледжання пра многае.

4. Хай і гэта не большасць, ёсць людзі, хто адчуваюць сябе больш камфортна, калі гавораць па-беларуску, і зможаш быць бліжэй да іх.

3. На беларускай можна захоўваць больш таямніц, чым на іншых больш папулярных мовах.

2. Беларуская мова вельмі, вельмі, вельмі эратычная :)

1. Калі нейкая іспанка можа, значыць, і ты можаш! Ці ты баязлівец?

*generation.by*

## Ахоўнікі збівалі нагамі кліента, які ляжаў.

***Відэа інцыдэнту з'явілася ў суполцы «Гэта Гомель, дзетка».***

«У рэстаране «Жыгулі» адбылася канкрэтная бойка, ахоўнікі дазволілі сабе збіваць маладых людзей з-за непаразумення!» - так падпісаны ролік.

З-за дрэннага асвятлення «малюнак» не адрозніваецца якасцю, аднак відаць, што адзін чалавек ляжыць на падлозе, іншы спрабуе да яго падысці, але некалькі разоў атрымлівае каленам у галаву. Затым пачынаюць біць і таго, які ляжаў. У гэты час некалькі чалавек не падпускаюць да яго «абаронцу». Дзяўчына ва ўніформе невядома навошта перашкаджае здымцы.

«Гэта значыць, зараз кожны мае права збіваць на працоўным месцы людзей за слоўную заўвагу. Кнігу скаргаў, натуральна, не далі. Персанал задаволены працягваў працаваць. Калі ахоўнікі ўдваіх білі маладога чалавека, наведвальнік (у чырвоным) заступіўся, за што атрымаў па твары некалькі разоў. Жорсткасць персаналу і адміністрацыі ўстановы пераходзіць усе рамкі», - перажывае аўтар роліка.

Тое, што адбылася, папрасілі пракаментаваць адміністрацыю культурна-забаўляльнага цэнтра «Еўропа», у які ўваходзіць рэстаран «Жыгулі». Тут, удакладніўшы, пра які менавіта інцыдэнт ідзе гаворка, паведамілі, што наведвальнікаў ніхто не біў, піша onliner.by.

Па інфармацыі суразмоўцы, які не назваў імя, але прадставіўся дырэктарам, нейкія людзі выпілі лішняга і пашкодзілі маёмасць; супрацоўнікі ж дзейнічалі паводле інструкцыі, што пацвярджаюць запісы ўнутраных камер. Ён таксама паведаміў, што была выкліканая міліцыя, складзеная адпаведная заява ў дачыненні да маладых людзей, якія пашкодзілі маёмасць. Хто ў кадры наносіць ўдары, хто стрымлівае і хто гэтая дзяўчына, якая затуляе аб'ектыў, ва ўстанове не распавялі, параіўшы больш пісаць пра добрае, пра мерапрыемствы.

У абласным УУС паведамілі, што за мінулыя дні заяваў у міліцыю з нагоды якіх-небудзь інцыдэнтаў у рэстаране «Жыгулі» не паступала.

Нядаўна падобныя інцыдэнты з удзелам персаналу ў Гомелі ўзнікалі ў краме «Еўраопт» і ў Rocket club.

*onliner.by*

— Дзень добры, я з Гомеля.
— Ну хадзі сюды, пашкадую…

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі снежань 2013»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2013"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com
Наш ***сайт***: gnavinki.com

M&S MEDIA